ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 52 (1689) | Пятніца, 29 чэрвеня 1962 года | Цана 4 кап.



На Мінскім камвольным камбінаце — вялікі калектыў самадзейных артыстаў. Спевакі, танцоры, музыканты, чытальнікі часта выступаюць з канцэртамі перад рабочымі камбіната. Запрашаюць іх і ў рабочыя клубы сталіцы.

Асаблівай папулярнасцю ў гледачоў карыстаецца танцавальны калектыў. У яго рэпертуары — беларускія, рускія, украінскія, малдаўскія танцы, а таксама танцы народаў краін народнай дэмакратыі. Фотакарэспандэнты знялі дзяўчат у хвалюючы момант — перад выступленнем у Палацы культуры прафсаюзаў.

Фота М. МІНКОВІЧА і М. РУБІНШТЭЙНА.

## ДЛЯ ШЧАСЦЯ ЧАЛАВЕКА

Два дні сёмая сесія Вярхоўнага Савета БССР пятага склікання абмяркоўвала пытанне аб далейшым паляпшэнні медыцынскага абслугоўвання сельскага насельніцтва.

— Па забяспечанасці насельніцтва ўрачамі, — адзначыў міністр аховы здароўя БССР дэпутат І. А. Інсараў, — Беларусь перавысіла такія капіталістычныя дзяржавы, як ЗША, Англія і Францыя. У 1959 годзе на 10 тысяч жыхароў у БССР было 13,3 урача, у ЗША — 12,1, Англіі — 11,4, у Францыі —10,7.

З году ў год паляпшаецца стан здароўя народа, павышаецца фізічнае развіццё дзяцей і падлеткаў, зніжаецца агульнае захворванне, павялічваецца працягласць жыцця. Агульная смяротнасць насельніцтва знізілася. У 1961 годзе яна была самай нізкай у свеце пры высокім натуральным прыросце насельніцтва.

Лічбы і факты, прыведзеныя ў дакладзе міністра, у выступленнях дэпутатаў на сесіі, сведчылі аб тым, што мясцовыя Саветы і органы аховы здароўя настойліва працуюць над тым, каб наблізіць кваліфікаваную медыцынскую дапамогу да сельскага насельніцтва.

Аднак у гэтай справе ёсць яшчэ і нявырашаныя пытанні. Міністр і дэпутаты, адзначаючы поспехі, ускрывалі і недахопы, уносілі прапановы, накіраваныя на паляпшэнне абслугоўвання працаўнікоў вёскі.

«Усё ў імя чалавека, для шчасця чалавека» — гэты ўрачыста абвешчаны партыяй лозунг пранізваў усе выступленні на сесіі. Прынятае сесіяй рашэнне дазволіць і далей паляпшаць ахову здароўя нашых людзей.

Вярхоўны Савет разгледзеў і іншыя пытанні: выбраў новы састаў Вярхоўнага суда БССР, зацвердзіў Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

## НАРОДНАМУ ПІСЬМЕННІКУ

27 чэрвеня 1962 года Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. І. Казлоў уручыў Міхаілу Ціханавічу Лынькову Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і пасведчанне аб прысваенні яму Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ганаровага звання Народнага пісьменніка Беларускай ССР за заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і актыўную грамадскую дзейнасць.

Прымаючы Ганаровую грамату аб прысваенні звання Народнага пісьменніка Беларускай ССР, Міхаіл Ціханавіч Лынькоў горача дзякаваў Камуністычнай партыі і Савецкаму ўраду за высокую ацэнку яго творчай працы.

В. І. Казлоў ад імя Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР сардэчна павіншаваў Міхаіла Ціханавіча Лынькова з прысваеннем яму высокага ганаровага звання, пажадаў добрага здароўя і далейшых творчых поспехаў.

## ПРАБЛЕМА З БАРАДОЙ

Аляксей КАРПЮК.

ГРОДЗЕНСКІМ землям не пашанцавала. Шмат тысячагоддзяў назад ледавік пакінуў тут аб сабе памяць — каменне. Яго поўна на тутэйшых палях. Рознага — ад буйных глыбаў да драбнюткіх каменьчыкаў. Па пяцьдзесят, шэсцьдзесят і нават восемдзесят кубічных метраў рассыпана на плошчы толькі ў адзін гектар. Месцамі глянеш на поле і дзіву даешся, як праз такі брук могуць прабіцца расліны, як гэтае поле людзі апрацоўваюць. Угнойвай — не ўгнойвай такое поле, а ўраджай будзе заўсёды слабы.

Чалавеку, якому не даводзілася сустракацца з камяністай глебай, цяжка нават сабе ўявіць памеры гэтай бяды. Вось некалькі прыкладаў.

— У нармальных умовах адным лемяхом можна араць цэлы сезон, — гаворыць намеснік старшыні калгаса «Нёман» Гродзенскага раёна А. Стройнік,— але з-за праклятага камення нашы трактарысты летась толькі за паўсезона паламалі 153 лемяхі і амаль столькі ж стоек, а гэта ж усё — грошы. Падлічы, колькі абыдзецца гектар такога ворыва...

— Хіба мы вінаваты? — крыўдзіцца трактарыст, які прысутнічае пры размове. — У пяцікорпусным плугу я адзін за змену па два лемяхі і па дзве стойкі мяняў, і вось табе ўжо дзесяць лемяхоў і дзесяць стоек! Хіба ў мяне мінашукальнік які-небудзь ёсць, каб я аб'язджаў камяні, ці што?

У размову ўмешваецца калгаснік. Ён з абурэннем дадае:

— Даюць нам гэтую тэхніку, а што толку? Сеялкі не хапае нават на адзін сезон! Усюды могілкі машын, а кожная з іх колькі каштуе!..

І сапраўды. Для многіх калгасных брыгад на Гродзеншчыне садзіць бульбу і кукурузу машынамі — мара. З першага заходу бульба- і кукурузасаджалкі выходзяць са строю. Якая карысць з квадратаў на такіх палях? Ды што квадраты! Месцамі наогул апрацоўваць зямлю можна толькі прымітыўнымі прыладамі.

У многіх калгасах Гродзеншчыны да сённяшняга дня яшчэ не разараны межы, якія некалі падзялялі аднаасобныя палоскі, бо на межах гэтых звалена каменне.

— Ах, якія ў вас прыгожыя краявіды: пералескі, хвойкі, кусты! — захапляюцца масквічы, ленінградцы, улетку прыязджаючы па Гродзеншчыне на курорт у Друскенікі.

Ім і няўцям, што гэтыя пералескі і кусты не ад добрага жыцця. Гэта камяністая, непрыгодная для ворыва зямля.

За апошнія гады механізатары навучыліся выцягваць валуны трактарамі. Валуны гэтыя, нібы тысячныя гурты авечак, выстраіліся ўздоўж межаў і дарог. Але на палях засталася драбяза, якой, здаецца, няма канца і краю. Ды і валуны прыбіраюцца толькі зверху. А іх, нібы разынак у пірог, наторкана ў глебу ўсярэдзіне — зазявайся толькі, трактарыст!

ШТОГОД збіраць каменне пасылаюцца тысячы калгаснікаў. Калгасы трацяць на гэта вялікую колькасць працадзён. Змагацца з каменнем штогод выходзяць школьнікі. Прыязджаюць з горада брыгады студэнтаў, рабочых. Але вынік ручной уборкі камення — кропля ў моры.

— Я неяк падлічыла,—скардзіцца брыгадзір калгаса «Звязда» Ваўкавыскага раёна М. Глебік, — што ў нашым калгасе, калі нават усю рабочую сілу кінуць на ўборку камення, дык гэтай работы мы не зробім і за дзесяць год! А хіба можам мы столькі чакаць? Мне хочацца, каб мой голас дайшоў да нашых вучоных і работнікаў прамысловасці. Няхай яны прыдумаюць машыну для ўборкі камення. Народ скажа ім дзякуй.

— Галоўнае, што яе не так цяжка і зрабіць! — з гневам гаворыць начальнік аддзела абласнога аб'яднання «Сельгастэхніка» І. Ганчарэвіч. — Бульбакамбайн на нашай зямлі не можа працаваць і мы прабавалі пускаць яго на каменне. І што ж? Ён яго цудоўна выбіраў! Але камбайн разлічаны на пэўны калібр бульбін і вялікія камяні засядаюць, машыну часта заклінoўвае. Вось каб яе сканструяваць так, каб яна падбірала камяні ўсе, незалежна ад памеру!

Таварыш Ганчарэвіч — малады спецыяліст, ён гарачы і любіць выказвацца рэзка. Штосьці прыгадаўшы, дадае:

— На студзеньскім Пленуме ЦК КПСС вельмі добра выступаў былы сакратар Алтайскага крайкома КПСС Пысін. Калі ён абураўся, што мала выпускаецца даільных машын, яго перапыніў таварыш Хрушчоў словамі: «Трэба старшынь саўнаргасаў за гэта на тыдзень — два ўзяць даярамі, тады будуць даільныя машыны...» Дык вось, — гаворыць І. Ганчарэвіч, — не пашкодзіла б таксама і тых, ад каго залежыць канструяванне і масавая вытворчасць каменяўборачных машын, паслаць на палі, даць ім у рукі кошыкі ці старыя вёдры і прымусіць хоць бы некалькі дзён збіраць каменне! Панылі б ад смутку гэтыя людзі, успомнілі б сёетое, і тады такія машыны з'явіліся б у нас хутка!

На Гродзеншчыне—426 000 гектараў ворнай зямлі. У сярэднім гэтая зямля дае сем-восем цэнтнераў з гектара. Калі ўзняць ураджайнасць толькі на чатыры цэнтнеры, дык гэта дасць каля дванаццаці мільёнаў пудоў, г. зн. вызваліць дзяржаву ад клопатаў забеспячэння вобласці хлебам. Адным словам, рэзерв вобласці — у павышэнні ўраджайнасці збожжавых. Але без вырашэння праблемы камення ўраджайнасці не ўзнімеш. Сапраўды: пяцьдзесят кубаметраў камення на плошчы аднаго гектара пакрывае да 20—30 працэнтаў зямлі!.. Каменне тармозіць і развіццё жывёлагадоўлі: кукуруза, бульба і буракі — культуры вельмі працаёмкія, патрабуюць механізацыі, а на камяністай глебе яе не прыменіш.

Трэба неадкладна ствараць каменяўборачныя машыны і наладзіць іх масавую вытворчасць. І няхай гэтыя машыны не проста выбіраюць асобныя каменьчыкі. Няхай яны апрацоўваюць зямлю на ўсю глыбіню ворнага пласта.

А яшчэ лепш было б, каб такія машыны, не парушаючы структуры глебы, на глыбіню аднаго метра выбіралі б усе камяні—і малыя, і вялікія, каб бліжэйшыя пяцьдзесят год людзям не балела пра іх галава.

Маючы ў дастатковай колькасці машыны для ўборкі камення, іх можна было б сканцэнтраваць на спецыяльных станцыях, накшталт меліярацыйных, і гэтыя станцыі апрацоўвалі б глебу калгасам планава, комплексна, з вядзеннем уліку, калі тое ці іншае поле ў апошні раз ачышчалася і на якую глыбіню. Улік такі патрэбен для таго, каб ведаць, калі трэба будзе брацца зноў за ачыстку. Справа ў тым, што верхнія пласты глебы, хоць і непрыкметна для вока чалавека, але ўвесь час зрушаюцца. Калі мы насыплем у кошык бульбы і пачнём яе трэсці, дык зверху апынуцца самыя вялікія бульбіны. Прыкладна так «растуць» камяні.

Усім вядома, што каменне — будаўнічы матэрыял. І як ні дзіўна, але частку гэтага будаўнічага матэрыялу ў Гродзенскую вобласць прывозяць з... Украіны. У бягучым годзе нават прадугледжана павелічэнне такога завозу. Толькі будаўнічыя арганізацыі горада Гродна прывязуць камення 5 000 кубічных метраў! Возіць яго і чыгунка для шчабёнкі. Чыгуначнікі робяць гэта без тлумачэнняў, маўляў, дарога наша і мы возім па ёй, што хочам. Будаўнікі апраўдваюцца так: мясцовае каменне не мае патрэбнай цвёрдасці і мы вымушаны прывозіць яго здалёку. Анекдот! Быццам ёсць нешта цвярдзейшае за гродзенскі граніт, быццам на месцы нельга знайсці патрэбнае каменне!

Утварыўшы каменяўборачныя станцыі, можна было б паставіць так справу, што здабыванне камення стала б рэнтабельнай гаспадаркай. Каменне, якое вывозілася б у іншыя рэспублікі, стала б багаццем Гродзеншчыны!

ПРАБЛЕМА камяністых глеб існуе не толькі на Гродзеншчыне. Гэта датычыць амаль усёй Беларусі. Ды і не толькі Беларусі, а і Прыбалтыкі, Пскоўшчыны і ўсяго паўночнага захаду Расіі.

Яшчэ на XXII з'ездзе Камуністычнай партыі Беларусі народны паэт Якуб Колас звярнуўся з заклікам узняць усе сілы і сродкі народа на ачыстку палёў ад камення. З таго часу не адзін вучоны абараніў дысертацыю на тэму камяністых глеб. Толькі карысці ад гэтага мала. Многія з гэтых работ практычнага значэння не маюць і, як правільна выказалася некалі газета «Известия», вучаць, «як качаць камяні».

Нядаўна Акадэмія навук СССР выдала ў добрых колерах і на высакаякаснай паперы даволі вялікі атлас БССР. У гэтым атласе ёсць усё. Пагартаўшы яго, нават можна даведацца, у якім месцы рэспублікі ёсць рэдкая птушка драфа, вушатая паганка. У атласе ўлічаны і такі незвычайны для Беларусі звярок, як суслік. Зарэгістраваны кожны дом адпачынку, адзначаны забалочаныя, парослыя хмызняком землі. Але дзіўна, сярод соцень карт не знайшлося месца і для адной, дзе б з такой жа акуратнасцю былі адзначаны і камяністыя глебы. Думаеце, гэта выпадкова? Не, проста іх ніхто не ўлічваў!

Рыхтуючы гэты матэрыял, я быў у Міністэрстве сельскай гаспадаркі БССР, Навукова-даследчым інстытуце механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, які ўзначальвае акадэмік М. Мацапура. У гэтых паважаных інстанцыях памеры плошчаў, засмечаных каменнем, а таксама працэнт іх засмечанасці называліся зусім розныя. Я спытаў у Міністэрстве сельскай гаспадаркі БССР, што робіцца з гэтым злом у маштабах Беларусі.

— Праблема камення, — сказалі там, — праблема з барадою! Мы змагаемся з ім, а як жа! Пры размеркаванні сельгастэхнікі і запасных частак мы ўлічваем камяністыя раёны і, напрыклад, на Гродзеншчыну пасылаем сеялак, трактараў, а да іх стоек і лемяхоў у шмат разоў больш, чым на Гомельшчыну...

Вось іменна, пасылаюць... Вышэй я прыводзіў прыклад, як у адным калгасе за паўсезона паламалася паўтараста стоек і лемяхоў. Вага адной стойкі і аднаго лемяха каля трыццаці пяці кілаграмаў, значыць, адзін калгас за паўсезона загубіў пяць тон дэталей, выраблёных з жалеза. А ў вобласці больш чатырохсот калгасаў! І вось на барацьбу з каменнем на Гродзеншчыну ідуць і ідуць вагоны, цэлыя эшалоны складанай тэхнікі, запасных частак.

Але такая барацьба нагадвае страляніну з драбавіка па танках! Абурыліся б, ведаю, шахцёры, ліцейшчыкі, рабочыя заводаў сельскагаспадарчых машын, калі б даведаліся, на што траціцца іх нялёгкая праца — ад гэтага толькі страты тым, хто страляе.

Правільна. І вялікія страты.

У БЕЛАРУСІ ідзе падрыхтоўка да наступлення на балоты, якія лічацца ў нас ворагам нумар адзін. Наша Палессе рэдка населена. Там вёска ад вёскі іншы раз—на адлегласці аднаго, а то двух дзесяткаў кіламетраў. «Трэба даваць сродкі ў першую чаргу туды, дзе эфект будзе большы і хутчэйшы!»—так сказаў М. С. Хрушчоў на адным з пленумаў ЦК КПСС. Асушыўшы Палессе, давядзецца ж гэтыя землі яшчэ асвоіць, засяліць і ў выніку эфект ад вялізарных затрат грошай і працы будзе не хутка. Вядома, трэба рабіць і гэта. Але ці не больш эканомна балоты гэтыя цяпер абвясціць ворагам беларускіх зямель нумар два, а на першае месца паставіць каменне? Бо яго прыбраць куды лягчэй, чым асушыць вялікія масівы балот, а вынік ад гэтага будзе неадкладны, ды ачышчаныя землі не трэба будзе ні асвойваць, ні засяляць!

Мне здаецца, што нашы вучоныя па-сапраўднаму яшчэ не браліся за праблему камяністых глеб. А час ужо ім прызнаць каменне ворагам беларускіх зямель нумар адзін, старанна вывучыць і падлічыць гэтага ворага ды пачаць распраўляцца з ім.

г. Гродна.

## МАСТАЦТВА — У БЫТ

Так называецца выстаўка-продаж выяўленчага і прыкладнога мастацтва саюзных рэспублік, якая адкрылася ўчора ў Мінску.

На выстаўцы экспануецца шырокі выбар керамічных вырабаў, мастацкай апрацоўкі дрэва, пейзажы, партрэты пісьменнікаў і кампазітараў.

Мэта выстаўкі — шырокая прапаганда твораў і вырабаў прыкладнога мастацтва, закліканых упрыгожыць быт савецкага чалавека.

## Справаздача студэнтаў

У Дубровенскім раённым Доме культуры экспануюцца дыпломныя работы выпускнікоў Мінскага мастацкага вучылішча.

Аматары жывапісу з адабрэннем адгукаюцца аб работах «Летам» Куўшынікавай, «1941 год» Гержадовіча, «Падрыўнікі» Моніча, «Абедзенны перапынак на будоўлі» Шумскага, «Школьніцы» Гоманава.

А. МАЦЫЛЕВІЧ.

## На грамадскіх асновах

Прыемна зайсці ў нашу раённую бібліятэку імя М. Багдановіча. Тут заўсёды ўтульна і людна. Свабодны доступ да кніжнага фонду дазваляе лёгка і хутка выбраць патрэбную кнігу, часопіс, газету. Актывісты Л. Малых, П. Каўцэвіч, Г. Галоўчыц і іншыя памагаюць бібліятэцы праводзіць канферэнцыі, гутаркі, агляды. Так, навуковы супрацоўнік музея А. Міцкевіча Е. Макоўская нядаўна зрабіла бібліяграфічны агляд «Літаратура аб Навагрудчыне».

Работнікі гарадской бібліятэкі стварылі хатнія бібліятэкі на вуліцах Мінскай і імя Жданава. Загадваюць імі пенсіянерка М. Казлова і работніца нарсуда В. Койда. Бібліятэкі-перасоўкі ёсць на многіх прадпрыемствах і заводах горада.

Д. ЗІНГЕР.

г. Навагрудак.

## Выстаўкі і вечары

Ілюстраваную кніжную выстаўку «Любімы паэт беларускага народа» падрыхтавала Смаргонская раённая бібліятэка. Тут экспануюцца творы Янкі Купалы, выдадзеныя ў дарэвалюцыйны і савецкі перыяды.

Раённая бібліятэка рыхтуе літаратурна-мастацкі вечар, прысвечаны творчасці Янкі Купалы.

Ул. СУРМАЧ.

## З горада над Бугам

Заўтра ў Мінску, у памяшканні Дзяржаўнага рускага тэатра імя М. Горкага, пачынаюцца гастролі Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра імя ЛКСМБ.

У гутарцы з нашым карэспандэнтам дырэктар тэатра Л. Валчэцкі паведаміў:

— Як і ў папярэдні свой прыезд (апошні раз калектыў быў у Мінску ўлетку 1959 года), мы адкрываем гастролі п'есай К. Губарэвіча «Брэсцкая крэпасць» (рэжысёры — заслужаныя дзеячы мастацтва БССР А. Міронскі і Ю. Арынянскі). Гэты спектакль — своеасаблівы творчы маніфест тэатра — вытрымаў ужо больш 470 паказаў у рэспубліцы і за яе межамі, а ў 1960 годзе ўдастоены гонару быць паказаным на сцэне Крамлёўскага тэатра.

З новых твораў беларускай драматургіі тэатр паставіць «Дзіўны дом» П. Васілеўскага (пастаноўка засл. арт. БССР Г. Волкава) і «Чалавек за бортам» Я. Пасава (рэжысёр Ю. Арынянскі). Абодва спектаклі апавядаюць пра жыццё нашай моладзі, у іх узнімаюцца надзённыя грамадскія праблемы.

Маладому сучасніку прысвечаны таксама спектаклі «Вялікае хваляванне» І. Дварэцкага, «Сам у сябе ў палоне» В. Смірновай і С. Крайндэль, «Кухарка» А. Сафронава, «Жыццё і злачынства Антона Шэлестава» (па раману «Гэнар» Г. Мядынскага).

Выкрыццю міжнароднага мілітарызму і каланіялізму прысвечаны спектаклі «Крэдыт у нібелунгаў» Ф. Куна і «У сэрцы Афрыкі» (інсцэніроўка рамана прагрэсіўнага амерыканскага пісьменніка Дэвідсана «Начныя парогі»).

Класічныя творы ў гастрольным рэпертуары прадстаўлены пастаноўкамі «Сабака на сене» Лопе дэ Вега і «Джэні Герхардт» (па раману Т. Драйзера).

— Якія змены адбыліся ў трупе тэатра за апошнія гады? — спыталі мы ў Л. Валчэцкага.

— Пераважная большасць нашых артыстаў,— адказвае ён, — старыя знаёмыя мінчан. Але калектыў папоўніўся моладдзю з самадзейнасці і іншых тэатраў краіны. Спадзяёмся, што знаёмства з імі будзе прыемным для гледачоў сталіцы.

— Калі гаварыць пра знаёмствы, — працягвае далей дырэктар тэатра, — дык і тыя артысты, што вядомы мінчанам, з'явяцца на сцэне ў «незнаёмых» ракурсах. Напрыклад, заслужаны артыст БССР Б. Уксусаў, якога вы памятаеце перш за ўсё па ролі байца Кукушкіна з «Брэсцкай крэпасці». Незвычайным і некалькі нечаканым будзе яго выступленне ў ролі Швяца ў «Вялікім хваляванні», бо гэты яго герой— абсалютная супрацьлегласць абаяльнаму і самаадданаму патрыёту Кукушкіну. Артыст Б. Уксусаў увогуле выступіць з вельмі разнастайным рэпертуарам: малады настаўнік Аляксей («Дзіўны дом»), фатаавантурыст Блок («Крэдыт у нібелунгаў»), прагрэсіўны грамадскі дзеяч Стэнтон («У сэрцы Афрыкі»), Сцяпан Казанец («Кухарка»).

Багаты таксама і рэпертуар маладога артыста С. Яўдошанкі: Клейн («Крэдыт у нібелунгаў»), Сухадоеў («Вялікае хваляванне»), Мусомбэ («У сэрцы Афрыкі»), Лестэр («Джэні Герхардт») і інш.

— Мы спадзяёмся, — гаворыць Л. Валчэцкі,— што для гледачоў будуць прыемнымі сустрэчы з вобразамі, якія створаны за апошнія гады заслужанымі артыстамі БССР М. Абрамавым, Ю. Уласавым, А. Качатковай, А. Асторынай, Т. Заранок, заслужаным артыстам Літоўскай ССР А. Логінавым, маладымі выканаўцамі Н. Ганчарэнка, В. Грышыным і іншымі.

Акрамя выступленняў на сталічнай сцэне тэатр наведае раённыя цэнтры, пабывае ў сельскай мясцовасці, дзе дасць на працягу месяца каля 16 спектакляў.

За час сёлетніх гастроляў тэатр пабываў ужо ў Баранавічах, Магілёве, Бабруйску, дзе яго выступленні праходзілі з добрым поспехам.

У заключэнне нашай размовы Л. П. Валчэцкі перадаў ад імя калектыву прывітанне мінскім гледачам:

— Мы адчуваем радасць новай сустрэчы з вамі і спадзяёмся, што яна будзе ўзаемна прыемнай і плённай.

## НЕЗАБЫЎНАЕ

Набліжаецца знамянальная дата — 150-годдзе разгрому напалеонаўскай арміі ў Айчыннай вайне 1812 года.

Многія эпізоды гэтай вялікай народна-вызваленчай эпапеі разгортваліся на тэрыторыі Беларусі. Рэдакцыя звярнулася да дырэктараў раду беларускіх музеяў з просьбай расказаць, як ідзе падрыхтоўка да знамянальнай даты.

### БАРЫСАЎ

Беразіна... На пакатых берагах гэтай ціхай ракі 150 год назад адбыліся гістарычныя падзеі. Іменна тут армія Напалеона страціла ў баях на пераправах 25 тысяч баяздольных салдат і афіцэраў, больш 30 гармат, усе абозы.

Набліжэнне 150-й гадавіны падзей, адным з важных этапаў якіх была бітва на Беразіне, выклікае вялікую цікавасць у працоўных Барысава і навакольных раёнаў.

Да знамянальнай даты на гістарычным месцы — Батарэях пабудаваны новы будынак музея. Тут у 1812 годзе знаходзілася Барысаўскае перадмоставае ўмацаванне. Крыху далей, там, дзе старыя сосны густа пераплялі свае вяршаліны, яшчэ і цяпер захаваліся сляды былых баёў — глыбокія равы і насыпы.

За гэтыя месяцы значна павялічыўся прыток наведвальнікаў у наш музей, расце колькасць экскурсій і паходаў да месца гістарычнай бітвы на Беразіне.

Айчыннай вайне 1812 года і разгрому французаў на Беразіне прысвечана ў музеі спецыяльная зала. Тут выстаўлены фотадакументы, карціны, якія расказваюць пра падзеі знамянальных дзён, узоры зброі, боепрыпасаў, адзення і галаўных убораў рускіх і французскіх войск.

Экспазіцыя ўвесь час папаўняецца. У выніку раскопак, праведзеных работнікамі музея ў раёне вёскі Студзёнка, знойдзены часткі зброі, гарматныя ядры, кулі. Днямі 15-фунтовае гарматнае ядро знайшлі і прынеслі ў музей вучні 13-й школы Барысава Вячаслаў Закрэўскі і Аляксандр Гулажэнка. Цікавыя экспанаты атрыманы з Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве, з музеяў Беларусі.

Сумесна з Мінскім гарадскім турысцкім бюро Барысаўскі краязнаўчы музей адкрыў спецыяльны маршрут да вёскі Студзёнка — месца баёў на Беразіне. За апошні час тут праведзена больш 50 экскурсій.

К. ГЛУШАНІН,
дырэктар Барысаўскага краязнаўчага музея.

### ВІЦЕБСК

У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі распрацавана і дапоўнена новымі матэрыяламі экспазіцыя «Айчынная вайна 1812 года на Віцебшчыне». Яна расказвае аб патрыятызме і нязгаснай славе нашых продкаў, якія адстаялі свабоду і незалежнасць Радзімы ў барацьбе супраць іншаземных захопнікаў.

У музеі выстаўлены фотакопіі дакументаў—паведамленняў аб бітве пад Астроўна і пры Клясціцах, партрэты ўдзельнікаў баёў. Значна дапоўнены матэрыял пра генерала Я. Кульнёва, ураджэнца Віцебшчыны, які па-геройску загінуў у баю ля вёскі Сівошына.

На стэндах, дзе экспануецца зброя часоў Айчыннай вайны 1812 г., дадаткова змешчаны ўзнагародныя знакі, знакі апалчэнцаў, жэтоны і серыя медаляў у памяць 1812 года.

Пра развіццё тагачаснага партызанскага руху расказвае паведамленне генерала Уластава, у якім адзначаецца адвага сялян вёскі Жарцы пад Полацкам.

Цікавыя экспанаты паступілі нядаўна ад жыхаркі Ленінграда Якаўлевай. Яна прыслала тэатральныя афішы і праграмы спектакляў канца XIX—пачатку XX стагоддзяў, збор з якіх пайшоў на пабудову ў Віцебску помніка героям Айчыннай вайны 1812 года. Помнік гэты быў адкрыты ў 1912 годзе. Як сімвал адвагі, славы і непераможнасці рускай зброі ўзвышаецца ён на Успенскай горцы.

Сюды, да падножжа помніка, штодзённа прыходзяць экскурсанты. З увагай слухаюць яны расказы пра гераічнае мінулае нашага народа.

Супрацоўнікі музея выступаюць на многіх прадпрыемствах з лекцыямі на тэму «Айчынная вайна 1812 года на Віцебшчыне».

На турысцкіх маршрутах, распрацаваных музеем, у Віцебск, Полацк, Астроўна, Клясціцы, Сівошына накіроўваюцца экскурсіі школьнікаў.

Мы рыхтуем таксама перасоўную выстаўку, прысвечаную 150-годдзю Айчыннай вайны 1812 года. Яна будзе экспанавацца ў клубах, на прадпрыемствах і ў навучальных установах.

І. НАВІЦКАЯ,
намеснік дырэктара Віцебскага абласнога музея.

### ВАЎКАВЫСК

Дом у Ваўкавыску, у якім 150 гадоў таму назад спыняўся генерал П. І. Баграціён са штабам 2-й арміі, стаў цяпер музеем імя выдатнага рускага палкаводца.

Работнікі музея памагаюць іншым музеям Беларусі камплектаваць фонды, прысвечаныя Айчыннай вайне 1812 года. За апошні час пасылкі з экспанатамі адпраўлены ў Бабруйск, Полацк, Барысаў, Гродна, Маладзечна, Магілёў.

У сваю чаргу мы атрымалі новыя рэліквіі баявой славы з Артылерыйскага музея, Ленінградскага музея А. В. Суворава, з Эрмітажа. З Артылерыйскага музея, у прыватнасці, атрыман здымак саксонскага сцяга, захопленага рускімі войскамі ў баю пад Ваўкавыскам.

Г. ПЕХ,
дырэктар Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя П. І. Баграціёна.

### КОБРЫН

Сярод новых экспанатаў нашага музея — карціны беларускіх мастакоў С. Раманава «Гарадзечанскі бой» і Ул. Стальмашонка «Капітуляцыя саксонскіх войск пад Кобрынам».

Наведвальнікі праяўляюць жывую цікавасць да падзей, што разгарнуліся ў ваколіцах старажытнага беларускага гарадка 150 гадоў назад. Мы падрабязна расказваем у музейных матэрыялах пра гераізм і мужнасць салдат 3-й рускай арміі генерала Тормасава, якія сваімі перамогамі на заходніх граніцах Расіі садзейнічалі разгрому захопніцкай арміі Напалеона.

А. МАРТЫНАЎ,
дырэктар Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава.

Помнік у Віцебску воінам-героям, якія загінулі ў Айчыннай вайне 1812 года.

Фота Ул. КРУКА.

